# РУБ‡КОН

№ 2 / 2014

Дадатак да інфармацыйнага бюлетэня “Весткі й Паведамленьні” Згуртаваньня “Пагоня”


## ДЭМАКРАТЫЯ


**Зянон Пазьняк**




Дэмакратыя – гэта форма ўлады, структуру якой фармуе ўвесь народ альбо асобная яго група шляхам выбараў альбо дэлегаваньня прадстаўнікоў.

Дэмакратычная форма ўлады спрыяе індывідуальнай рэалізацыі асобы і разьвіцьцю грамадзкай супольнасьці, прадугледжвае свабоду і вольнасьць грамадзяніна.

Дэмакратыя дала магчымасьць у некаторых краінах стварыць якаснае сацыяльнае забесьпячэньне і забясьпечаную старасьць, падтрымаць інвалідаў, адукацыю і творчасьць, яна стымулявала здаровую канкурэнцыю вытворчасьці і разьвіцьцё эфэктыўнай сельскай гаспадаркі.

Адначасна дэмакратычная форма ўлады спрыяе павелічэньню энтрапіі, разбурэньню грамадзкага парадку, прыводзіць да страты кантролю над антыграмадзкімі, дэградуючымі працэсамі, пры крызісных абставінах вядзе да аслабленьня і разбурэньня дзяржавы (Рэч Паспалітая, Вялікае Княства Літоўскае, Ноўгарад, Грэцыя, Рым).

Дэмакратыя ёсьць форма ўлады мірнага часу. Такая якасьць дэмакратыі ўлічаная ў заканадаўстве большыні краінаў дэмакратычнага сьвету. На пэрыяд вайны шмат якія прынцыпы дэмакратыі перастаюць дзейнічаць. Паўната безагаворачнай ўлады (і, у прынцыпе, дыктатарскай) пераходзіць да прэзыдэнта ці прэм'ер-міністра, ці іншай уладнай асобы. Прадугледжана ваеннае становішча, дыктатарскія законы ваеннага часу і г. д.

Разуменьне такой неабходнасьці прышло не адразу нават ў Афінах (радзіме дэмакратыі). Беларусь (ВКЛ) і Польшча – найстарэйшыя дэмакратыі ў хрысьціянскім сьвеце – дзьвесьце гадоў таму, фактычна, загінулі як дзяржавы ад сваёй неабмежаванай шляхецкай дэмакратыі. І часта было, што маскоўская арда ўжо тапталася па Вялікім Княстве, а войска ВКЛ чакала збору і паседжаньня Сойму дзяржавы, які мусіў прызначыць гэтмана польнага, гэтманаў правай і левай рукі. Я не кажу ўжо пра Liberum Veto ў Рэчы Паспалітай.

Дэмакратыя зьвязаная з грамадзкімі ідэямі, з пануючай формай уласнасьці і формай грамадзкай вытворчасьці. Рынкавая эканоміка і дачыненьні найлепш рэалізуюцца ў палітычнай сыстэме дэмакратыі. У сучасным сьвеце дэмакратычная форма ўлады адпавядае характару вытворчых адносінаў, але па сваёй анталягічнай сутнасьці – гэта шчарбатая (“збочаная” па Арыстоцелю) сыстэма кіраваньня, якая пры пэўных абставінах прыводзіць да ўпадку і дэзарганізацыі грамадзтва. Паводле У. Чэрчыля – гэта дрэнная форма, але лепшай не прыдумалі.

Вяршыні дэмакратыі пэрыяду капіталізму і нацыянальных дзяржаваў – гэта **амэрыканская дэмакратыя**, заснаваная на ідэі асабістай свабоды асобы і на рынкавай эканоміцы, і **эўрапейская дэмакратыя**, заснаваная на ідэі народнай свабоды, роўнасьці, братэрства і на рынкавай эканоміцы.

У выбарчай сыстэме ўсеагульнай дэмакратыі, якая не прадугледжвае абмежаваньняў і выбарчых цэнзаў, закладзеная сыстэмная магчымасьць маральнай дэградацыі грамадзтва і улады. Гэта ёсьць ахілесавая пята дэмакратыі, і зьвязаная яна з прынцыпамі дэмакратычнга змаганьня за ўладу ў час выбараў. Змагаючыся за галасы выбаршчыкаў, прэтэндэнты на ўладу (у залежнасьці ад асабістага ўзроўню і характару) могуць апэляваць да маргінальных і антыграмадзкіх групаў людзей, абяцаючы ім падтрымку, каб атрымаць галасы. Такім чынам у сыстэме татальнай выбарнай дэмакратыі закладзеныя магчымасьці, якія легалізуюць дэструктыўныя, адсталыя, збочаныя, паразітныя і зусім нікчэмныя зьявы грамадзтва – адкіды разьвіцьця, уводзяць іх у сыстэму ўлады, у інфармацыйныя інстытуты, якія ўплываюць на ўсё грамадзтва, у сыстэму асьветы і інш., падтрымліваюць прыняцьцем дэструктыўных (часта антыграмадзкіх) законаў і палажэньняў.

Пачынаючы з 1960-х гадоў мінулага стагодзьдзя, і амэрыканская, і эўрапейская дэмакратыі зьмянілі ідэалёгію і ўступілі ў паласу сыстэмнага і роdавага крызісу як дэмакратыі левага лібэралізму альбо левалібэральныя дэмакратыі.

Левалібэральная дэмакратыя заснаваная на касмапалітычнай ідэі прыярытэту правоў чалавека, на касмапалітычнай ідэі мультыкультурнага фармаваньня грамадзтва і на лібэральных прынцыпах эканомікі, якія прадугледжваюць прыярытэт эканомікі перад дзяржаўнай уладай.

**Лібэральная дэмакратыя** ў цэлым як крызісны этап дэмакратыі, павязаная з новымі формамі інфармацыі, выклікае калясальнае павелічэньне энтрапіі за кошт стварэньня сыстэмы лібэральных антыкаштоўнасьцяў, галоўнымі зь якіх ёсьць антыхрысьціянства і рэлятывізм, які сьцірае межы паміж дабром і злом, зманам і ісьцінай, дэградацыяй і разьвіцьцём, прыродай і хімерай.

Левалібэральная дэмакратыя сфармавалася ў выніку спалучэньня маргінальных левых ідэй з прынцыпамі дэмакратыі і рынкавай эканомікі.

У левалібэральнай дэмакратыі эканамічным таварам становяцца не высокія таленты асобы, а нізкія заганы, злачынствы і збачэнствы, не хараство, а брыдота. Нават дурнота шырока прадаецца і набывае свой рынак. Назіраецца люмпэнізацыя насельніцтва. У выніку адбываецца рэзкі ўпадак культуры. Незапатрабаваным робіцца мастацтва, зьнікаюць ягоныя віды, дэградуе мараль, прымітывізуецца асоба.

Усё гэта – складнікі глыбокага духоўнага крызісу, хуткага выхаду зь якога, практычна, не бывае, калі будзе пяройдзена мяжа невяртаньня. Становішча абцяжарана тым больш тлеючым глябальным крызісам насычэньня сусьветнага таварнага рынку, выйсьця зь якога таксама яшчэ не відаць.

Павелічэньне энтрапіі праваkуе сама рынкавая эканоміка, але пры левалібэралізме ідэалёгія псэўдадэмакратыі разьвіваецца сама па сабе і ўплывае на паступовую дэзарганізацыю грамадзтва.

У апошнія 25 гадоў (з уваходам вытворчасьці ў электронную эру) істотным чыньнікам энтрапіі стала рэзкае павелічэньне хуткасьці пераменаў. Дынаміка вытворчасьці зраўнялася з пэрыядам засваеньня новых тэхналёгіяў і стала пераганяць спажывецкія магчымасьці. Тэндэнцыя разьвіваецца як усеагульны працэс.

У сфэры транспарту (лакамоцыі) рэзкае павелічэньне хуткасьці прывяло да новага (малакантралюемага) адчуваньня прасторы і часу. У сфэры інфармацыі вытворчасьць яе перадачы шматкроць перабольшыла магчымасьць успрыняцьця. У сацыяльна-культурнай сфэры (у выніку паскарэньня і сьцісканьня дэмаграфічнай дынамікі) разрыў паміж пакаленьнямі у межах адной сям'і дасягнуў крытычнай мяжы. Перадача культуры абцяжарваецца і, практычна, спыняецца нават ў дачыненьнях бацькоў і дзяцей. Траціцца адчуваньне (і разуменьне) гістарызму культуры. Усё паглынае цяперш-чына, за якой чалавек ужо не пасьпявае. Такую дэмадынаміку як меру хуткасьці пераменаў трэба разглядаць як асобную катэгорыю працэсаў, выкліканых рынкавай эканомікай і кансумэнцкім, лібэральным спосабам спажываньня.

Далей аб пэрспэктыве сусьветнай дэмакратыі можна казаць толькі ўмоўна.

Практычна, працэс спаўзаньня ў дэмакратычным сьвеце магло б спыніць духоўнае нацыянальнае адраджэньне як агульнацывілізацыйнае рушэньне. На сёньняшні дзень альтэрнатываю крызісу і рэгрэсу ёсьць толькі ідэя адраджэньня Хрысьціянства. Але гэта якраз тая ідэя, якую не шануе левалібэральная дэмакратыя.

Фармальна спаўзаньне да маральнай катастрофы магла б (мяркуючы тэарэтычна) часова прытармазіць (але не ўратаваць) такая хірургічная апэрацыя лібэральнай дэмакратыі, як шырока ўвасобленая дыктатура, дыктатарская сыстэма ўлады. (Гэтым карыстаўся Рым, хоць тое яго і не ўратавала.) Зразумела, што сэнс тут у тым, каб пасьля дыктатуры і санацыі пачалося новае духоўнае дэмакратычнае адраджэньне, а не карупцыйная алігархія і ня люмпэнская ахлакратыя. Прытым трэба ўсьведамляць, што дыктатура ў такіх выпадках нясе з сабою абмежаваньне свабоды, перасьлед, рэпрэсіі і сьмерць. Нармальнасьць дасягаецца часам вялікай, крывавай цаной (характэрны прыклад дыктатура Піначэта ў Чылі). Гэта варыянт для Эўропы ўмоўны і не рэальны.

І трэці варыянт – катастрафічны. Гэта глябальная вайна, па маштабу – кшталту 2-й Сусьветнай. Магчымасьць такога варыянту павялічваецца якраз тады, калі пераход мяжы невяртаньня адбудзецца, і новы сусьветны тавар ня зьявіцца. Тады ўсе працэсы будуць "працаваць" на катастрофу. І яна мусіла б стаць.

Зразумела, што тут я выказваю толькі меркаваньні (спэкуляцыі), разглядаю варыянтнасьць. Але яна зыходзіць з відочных тэндэнцыяў структурнага разьвіцьця грамадзтва і падмацаваная ўжо гістарычным вопытам людзей. Гэтага дастаткова, каб адысьці ад прапаганды і самарэклямы цяперашняга грамадзтва і паставіцца сур'ёзна да праблемаў і плыняў сучаснага сьвету. Асабліва дбаючы пра прышласьць нашай дарагой Беларусі. засваеньня новых тэхналёгіяў і стала.

Практычна, працэс спаўзаньня ў дэмакратычным сьвеце нага сьвету. Асабліва дбаючы пра прышласьць нашай дарагой Беларусі.

*8 ліпеня 2013 г.*

# НЕСЬВЯДОМАЯ НЕБЯСЬПЕКА СЬВЯДОМАСЬЦІ



**Віталь Воранаў**

## Сьвядомасьць і навука

Бадай самым цікавым і адначасна найменш дасьледаваным фэнамэнам сучаснага беларускага жыцьця зьяўляецца тое, што для патрэбаў гэтага аналізу я буду называць тэрмінам „сьведаміцтва". У гэтым кантэксьце пад сьведаміцтвам маецца на ўвазе набор перакананьняў і ўяўленьняў пра сьвет з пункту гледжаньня так званага „сьвядомага беларуса". Мэтаю артыкулу ня ёсьць прадстаўленьне гісторыі стварэньня ці выяўленьня першакрыніцы гэтага эпітэту або фактараў, якія паспрыялі ягонай пашыранасьці ў грамадстве, але апісаньне пагрозаў, зьвязаных з разьмежаваньнем беларусаў на „сьвядомых" і „несьвядомых".

Нягледзячы на беспрэцэдэнтны ў гісторыі прагрэс, навука так і ня здолела, а некаторыя навукоўцы сьцьвярджаюць, што ніколі й ня здолее адказаць на пытаньне, чым ёсьць сьвядомасьць. Нават такая інтэрдысцыплінарная навука як нэўрабіялёгія, якая змагла прыадкрыць пэўныя таямніцы працы мозгу чалавека, у сутыкненьні з агульнаю мэтапарадыгмаю апынулася цалкам бездапаможнаю. Не дасягнутая таксама згода, што да правядзеньня мяжы паміж сьвядомасьцю і несьвядомасьцю. Сьвядомасьць можа быць інтэгральнаю часткаю несьвядомасьці, можа судакранацца зь ёю ў адным абшары і быць незалежнаю ў іншым, або абодва станы могуць быць незалежныя цалкам. Відаць, найбольш пашыраная схема розуму чалавека належыць аўтарству пачынальніка псыхааналітыкі Зыгмунту Фройду. Людзкі розум прадстаўлены тут у выглядзе айсбэргу.

Тая частка айсбэргу, якая бачная над паверхняю вады – гэта сьвядомае. Гэта таксама найменшая частка, якая займае ўсяго ад 5 да 10 адсоткаў усёй псыхікі. Астатняя большая частка ледзяной гары знаходзяцца пад вадою. Падсьвядомае, якое знаходзіцца адразу пад паверхняй вады ахоплівае ўспаміны і веды, якія могуць лёгка пераносіцца ў сфэру сьвядомага. Гэта прыблізна ад 10–15 адсоткаў розуму. Глыбока пад вадою знаходзіцца самая вялікая частка (75–80 адсоткаў) – несьвядомае розуму чалавека, якая зьмяшчае ў сабе боязьні, сарамлівыя досьведы, непрымальныя сэксуальныя жаданьні і г.д. Фройд вызначае тры аспэкты асабовасьці чалавека: id (яно), ego (я) і superego (над я). Сярод іх ego і superego дзейнічаюць на ўсіх трох узроўнях бачнага і нябачнага, у той час як id дзейнічае выключна на „найглыбейшым" узроўні псыхікі і выражаецца ў несьвядомых, інстынктыўных памкненьнях. Але што такое само сьвядомае і несьвядомае?

Тэрмін сьвядомасьць адносіцца да некалькіх станаў і звычайна выступае ў апазыцыі да несьвядомасьці (некаторыя замест гэтага памылкова выкарыстоўваюць тэрмін „падсьвядомасьць"), але мяжа паміж адным і другім станам вельмі ўмоўная, часта супярэчлівая рэчаіснасьці і фа-ктам. Так, напрыклад, станам сьвядомасьці лічыцца прабуджэньне. Чалавек абуджаны – сьвядомы, а чалавек, што сьпіць, адпаведна – несьвядомы. Цікава, што да зьяўленьня фэнамэну сьвядаміцтва бела-рускія песьняры апэлявалі якраз да абуджэньня нацыі: „Ад веку мы спалі і нас абудзілі", „Прачынайся! Браток Беларус!/Зноў Радзіма зняслаўлена, ў кратах", „Спаў народ, і ты спала, і ворагі верылі,/ Што ніхто не разбудзіць цябе, што заснула навек." Аднак мы ведаем, што калі чалавек сьпіць, ён можа сьніць сны, і ў гэткім разуменьні чалавек зьяўляецца сьвядомым. Адзіная розьніца ў тым, што ў стане сну чалавек несьвядомы сьвету вонкавага, але надалей сьвядомы сьвету нутранага. Такім чынам сьцьвярджэньне, што сьпячы чалавек несьвядомы, разыходзіцца з праўдаю.

Іншы аспэкт сьвядомасьці – гэта канцэнтрацыя, то бок здольнасьць засяроджаньня на нейкім матэрыяле або чыннасьці. Гэты падзел таксама вельмі невыразны, і ягоную ўмоўнасьць добра ўсьведамляе той, хто чытаючы кніжку, хоць раз аддаліўся думкамі ад яе зьместу, прытым фармальна не перастаўшы чытаць літараў/словаў/сказаў. Тое самае выдатна ўсьведамляюць кіроўцы, якія езьдзяць на доўгія адлегласьці. Пасьля некалькі гадзінаў язды, спраўны кіроўца пераходзіць у стан лёгкай несьвядомасьці ці, скажам, мінімальнай сьвядомасьці, якая дазваляе пры невялікай канцэнтрацыі працягваць бясьпечны рух да мэты.

Чарговая праява сьвядомасьці – гэта духоўнасьць. Яна зьяўляецца ці ня самаю суб'ектыўнаю з вышэй прадстаўленых, паколькі адносіцца да пытаньня веры ў яе розных ўвасабленьнях. Хтосьці можа лічыцца сьвядомым або несьвядомым існаваньня Бога ці рэінкарнацыі, але паколькі існаваньне ні аднаго, ні другога ніколі не было даведзенае ані, зрэшты, як і аспрэчанае, то быць цалкам сьвядомым, як і цалкам несьвядомым, у гэтым пляне немагчыма. Існуе таксама шэраг памежных вераваньняў і суб'ектыўных разуменьняў той ці іншай догмы. Гэты аспэкт апазыцыі паміж сьвядомасьцю/несьвядомасьцю таксама размыты і недастаткова аргумэнтаваны, як падзел на сьвядомых людзей і несьвядо-

мых жывёлаў/расьлінаў. Навуковыя дасьледваньні ўсё часьцей даводзяць пра існаваньне большай ці меншай сьвядомасьці, як адных так і другіх. Адпаведна, навука таксама ўсё часьцей перад тэрмінам сьвядомасьць аддае перавагу тэрмінам ўсьведамленьне ці здольнасьць адчуваньня.

Адсюль вынікае, што падзел беларусаў на сьвядомых і несьвядомых сам у сабе ня толькі надзвычай супярэчлівы, але таксама, з-за сваёй суб'ектыўнасьці, вельмі небясьпечны. Асабліва, калі ўлічыць, што ў спрошчаным варыянце сьведаміцтва – гэта „адзіная правільная форма беларускасьці". Сьвядомымі прынята лічыць адукаваных (прынамсі ў пэўных пытаньнях) беларусаў, якія ня толькі ведаюць адзіную правільную гісторыю (хаця, як вядома, адзінай гісторыі не бывае), разумее сёньняшнюю сытуацыю ў краіне (адпаведна займае нонканфармісцкую пазыцыю) і мае пэўнае бачаньне будучыні (гэты аспэкт сьвядаміцтва з-за аб'ектыўных прычынаў якраз найбольш размыты). Адсюль вынікае чарговая супярэчнасьць такога падзелу, паколькі выдзеленая тут рацыянальнасьць складае толькі частку розуму. Апрача мысьленьня, розум складаецца з недаацэненых або цалкам ня ўлічаных: памяці, уяўленьня, эмоцый, пачуцьцяў, інтуіцыі, чульлівасьці і ўспрыманьня. Беручы гэта пад ўвагу, можна ўпэўнена сьцьвярджаць, што адзінай сьвядомасьці ў прыродзе не бывае, ня кажучы ўжо пра тое, што мысьленьне таксама залежыць, часам кагэгарычна, ад стану ведаў і шэрагу іншых размаітых фактараў. Але пакінем тэорыю і прыгледзімся да праблемы менавіта беларускага сьведаміцтва.

## Сьведаміцтва і Беларусь

Тое, што беларускае грамадзтва дзеліцца на сьвядомых і несьвядомых – гэта аксіёма. Пра факт, што сьвядомыя, у сваю чаргу, дзеляцца на два лягеры, ведаюць ужо ня ўсе. Вельмі ўмоўна (з прычыны размытасьці мяжы паміж аднымі і другімі) сьведамітаў можна падзяліць на „культурніцкіх" і „палітычных". Першыя і другія належаць фармальна ці нефармальна да так званай апазыцыі і поплеч змагаюцца з пануючай сыстэмай. Аднак прыярытэты ў двух абозах розныя, а часам нават супярэчлівыя. Калі казаць найбольш агульна, то культурніцкія сьведаміты змагаюцца за беларускую культуру, а палітычныя за дэмакратыю. Дадаткова ў кожнай групе пануе мноства іншых падгрупаў і ідэйных антыномій.

Гэтак культурніцкія сьведаміты змагаюцца за беларускую мову, бел-чырвона-белы сьцяг і герб Пагоня. Прытым значная частка групы, якая змагаецца за мову, робіць гэта пад іншым сьцягам і гербам, напрыклад, працуючы ў дзяржаўных выданьнях, але пры гэтым „сьвядома" папулярызуючы беларускую мову. Частка культурніцкіх сьведамітаў выступае за вяртаньне нацыянальнай сымболікі, але не валодае беларускаю моваю ці не надае ёй прыярытэтнага значэньня. Разыходжаньні і спрэчкі наконт формаў ці спосабаў адраджэньня/захаваньня мовы ўнутры групы, якая канцэнтруецца на праблеме мовы – гэта наогул тэма на асобны артыкул.

Абоз палітычных сьведамітаў яшчэ менш аднародны. Тут пануе некалькі падгрупаў, якія аддаюць перавагу тым ці іншым аспэктам: дэмакратыя, свабода, незалежнасьць, правы чалавека. Апрача таго, што ўсе гэтыя аспэкты вельмі неакрэсьленыя (не бывае, напрыклад, адзіных правоў чалавека ці ўнівэрсальнай формы дэмакратыі), праблему падзелаў на падгрупы дадаткова паглыбляюць ідэі і формы іхняй рэалізацыі, а таксама падзелы палітычная. Гэтак палітычныя сьведаміты дзеляцца на праэўрапейскіх і прарасейскіх, камуністаў і сацыялдэмакратаў, лібэрала і кансэрватараў і г.д.

Абыдзьве групы сьведамітаў шчыльна супрацоўнічаюць у тых аспэктах, якія аб'ядноўваюць большасьць зь іх, альбо там, дзе прынамсі дасягнутыя пэўныя кансэнсусы: бел-чырвона-белы сьцяг і свабода. Аднак падзелы становяцца заўважнымі, а з часам нават паглыбляюцца ў пытаньнях, у якіх поўнай згоды няма. Да такіх праблемаў можна аднесьці праблему статусу беларускай мовы. Калі большасьць сьведамітаў пагаджаецца, што беларускую мову трэба патрымліваць, то пытаньне формы рэалізацыі такой падтрымкі застаецца спрэчным. Асабліва гэтае пытаньне грызецца з ідэалістыным разуменьнем дэмакратыі, у якой большасьць насельніцтва краіны, прынамсі на сёньняшні дзень, усё такі аддае перавагу мове расейскай. Культурніцкія сьведаміты гатовыя ахвяраваць дэмакратыяй у пытаньні адраджэньня мовы, а палітычныя ўжо сёньня заяўляюць, што такога быць ня можа. Тое ж тычыцца пакараньня сьмерцю, правоў сэксуальных мяншыняў ці эўраінтэграцыі. У дадзенай палітычна культурніцкай сытуацыі абыдзьве групы ўмоўна змагаюцца за адно, але пасьля падзеньня сыстэмы няўхільна апынуцца па розных баках барыкадаў. Відавочна, што тэрмін „сьвядомы беларус" залежыць ад інтэрпрэтацыі, але паспрабуем бліжэй прыгледзецца менавіта да яго першапачатковай, „культурніцкай" разнавіднасьці.

## Сьведаміцтва і культура

У культурніцкім абозе сьведамітаў пануе перакананьне, што „сапраўдны" беларус мусіць гаварыць па-беларуску. Аднак з прычыны, як ужо было выказана раней, на немагчымасьць дасягненьня ідэалягічнай цэласнасьці, разуменьне канцэпту падвергнутае шэрагу схематычных спрашчэньняў і супярэчнасьцяў. Элемэнт, які выносіцца на першы плян у кожнай падгрупе звычайна падаўляе або цалкам ігнарue

іншыя складнікі сьвядомасьці. Адсюль вялікая частка моўных сьведамітаў перакананая, што беларусам зьяўляецца кожны, хто авалодаў беларускай мовай хоць у нейкай ступені. Такія аспэкты, як дасканаласьць валоданьня мовай ці сацыялінгвістычныя праблемы ўжываньня мовы звычайна выштурхоўваюцца на пэрыфэрыі дыскурсу. Гэтая падгрупа з-за нерацыянальнасьці свайго разуменьня дагэтуль не выпрацавала, напрыклад, інтэрпрэтацыі факту вывучэньня мовы з мэтаю выведкі або з прычыны нейкіх іншых, варожых памкненьняў. Гэтак сярод моўных сьведамітаў пануе поўная разгубленасьць, калі чалавек па-беларуску выказвае ідэалягічна варожыя, з пункту гледжаньня беларускай ідэі, меркаваньні. Калі ж ранейшы вораг пераходзіць раптам на беларускую мову, то моўныя сьведаміты ўспрымаюць гэта ў катэгорыях рэлігійнага навяртаньня на адзіны, сапраўдны шлях. Напрыклад, калі моўны сьведаміт, хрысьціянін чуе як чалавек па-беларуску выказвае нейкія сьвятатацкія погляды, то несьвядомая частка ягонага розуму рэпрэсуе/падаўляе выказваньне такім спосабам, што сьвядомасьць незаўжды здольная ўспрымаць і інтэрпрэтаваць гэтае выказваньне як адназначна адмоўнае.

Іншы аспэкт унутранага падзелу можна праілюстраваць на прыкладзе палітычнай сьвядомасьці моўных сьведамітаў. Сапраўдны, падзел больш за ўсё заўважны ў дэфініцыі панятка народ, што ў клясычным разуменьні адносіцца да продкаў (дзядоў), нас (сучасьнікаў) і нашчадкаў (будучых пакаленьняў), але сярод значнай часткі сьведамітаў асацыюецца са спрошчаным панятkам „насельніцтва", то бок людзі „тут і цяпер". Адпаведна, беларусам можа стаць кожны, хто гатовы прыняць пэўныя догмы, што найчасьцей зводзіцца да вывучэньня беларускай мовы. Прадстаўнікі гэтай падгрупы звычайна не прымаюць да ведаму існаваньня канфліктаў, якія не вынікаюць з моўнай праблематыкі альбо інтэрпрэтуюць іх выключна праз прызму мовы. Такім чынам для моўнага сьведаміта, беларускім пісьменьнікам можа стаць кожны, хто піша па-беларуску, а для сьведаміта-дэмакрата, беларускі пісьменьнік кожны той, хто сам сябе да гэтае групы адносіць, незалежна ад працоўнае мовы такога літаратара.

З гэтым таксама шчыльна зьвязаны падыход моўных сьведамітаў да прамоцыі мовы, які ўсё часьцей адыходзіць ад нацыянальнай рыторыкі і замест апэляваньня да „мовы дзядоў" апэлюе да „моды". Натуральна, што ў такім разуменьні сьвядома ці несьвядома ігнаруецца факт хуткаплыннасьці кожнае моды. Парадаксальна, мода выступае тут як вартасьць пастаянная, то бок мода, якая ніколі не мінае, не мяняецца. Ад гэтае падгрупы мы часта можам пачуць „беларуская мова модная", „у Менску модна гаварыць па-беларуску", „беларускамоўная рэкляма зараз у модзе" і г.д. Згодна са спэцыфікай, уласьцівай таму, што зьяўляецца модным, гэтая падгрупа мае рысы тыповыя для кожнай субкультуры, і што з гэтага вынікае – субкультурны мэнталітэт. Мова тут выступае як фактар адметнасьці, то бок таго, што вылучае з натоўпу. У якасьці проціleглага разуменьня гэтае праблемы варта працытаваць верш Ларысы Геніюш: „Гаварыць па-беларуску – гэта модна./Мовы маці, кажуць, не забыць./Для мяне ж гэта ня модна, толькі родна –/гэта так, як піць, як есьць, як жыць..."

Суровая іерархізацыя прыярытэтаў і няўхільная тэндэнцыя да спрашчэньня кожнае праблемы вядзе да пэўных пагрозаў. Добра вядома, што ў абліччы небясьпекі, падсьвядомасьць пачынае рэагаваць значна раней за сьвядомасьць. Прыйшоў час, каб бліжэй прыгледзецца да небясьпекі, якая вынікае якраз з падзелу на сьвядомых і несьвядомых у кантэксце фэнамэну аўтаматызацыі і падаўленьня сьвядомага.

## Сьведаміцтва і небясьпека

Возьмем на разгляд клясычны прыклад пра кінапраекцыю фільма. Гледзячы фільм, людзі сьмяюцца, плачуць, перажываюць, хвалюцца, жахаюцца і, у залежнасьці ад якасьці прадукцыі, у той ці іншай ступені паглыбляюцца ў тое, што „адбываецца на экране". Звычайна мы забываем пра тое, што кожны фільм – гэта звычайны струмень сьвятла, які праектуецца на вялікі экран кінатэатра. Акторскую ігру, па законах канвэнцыі, мы адпаведна ўспрымаем як штосьці, што „сапраўды" адбываецца, і таму гатовыя з эмпатыяй рэагаваць на боль, сьмерць, шчасьце ці смутак герояў. Натуральна, што ў такой сытуацыі, сьвядомае падаўляецца на карысьць несьвядомага. Бяз гэтага ўменьня „адключыцца" глядзеньне фільму было б цалкам немагчымым. Кожная асоба складаецца са сьвядомага і несьвядомага, але ідэалягічны сьведаміт змушаны да няспыннага падаўленьня несьвядомага. І хоць ён так як і ўсе астатнія можа адключыць сьвядомасьць і атрымаць асалоду ад улюбёнага фільму, то ў сытуацыі, якая вымагае ад яго ідэялягічнай паставы, ён няздольны адключыць сьведаміцкае мысленьне і, адпаведна, ня бачыць большасьці праблемаў, якія хаваюцца ў несьвядомым. У выніку, парадаксальна, ён становіцца больш несьвядомым за несьвядомага, таму што ігнаруе існаваньне 90-95 адсоткаў падсьвядомага і несьвядомага свайго розуму. Няўменьне рэпрэсаваць у сабе сьвядомае робіць яго зацыкленым на працэсе і, адпаведна, сьляпым на праблемы несьвядомасьці. Адсюль кожнай форме сьведаміцтва ў той ці іншай ступені ўласьцівае перавядзеньне рацыянальнага ў ірацыянальнае і наадварот.

Уменьне рэпрэсаваньня/падаўленьня несьвядомасьцю сьвядомага дазваляе чалавеку функцыянаваць у грамадзтве. Падаўленьне ўвагі да кожнага колеру, гуку і формы атачэньня дазваляе кіроўцу бясьпечна кіраваць транспартным сродкам. Вытворца гарэлкі зь непадаўленай сьвядомасьцю таго, што ягоная праца павольна забівае тысячы людзей, мусіў бы або кінуць сваю працу, або ўчыніць самагубства. Калі б падаўленьне сьвядомага было парушанае, чалавек ня быў бы здольны ня тое што выконваць складаныя, тэхнічныя апэрацыі, але нават базавыя чыннасьці сталіся б для яго цалкам недасягальныя. Гэта добра відаць на прыкладзе пацыентаў з нэўрозам назойлівых станаў, якія характэрызуюцца фіксацыяй на пэўных элемэнтах, што часта не дазваляе ім весьці нармальны лад жыцьця.

Фіксацыя на штучным падзеле на сьвядомых і несьвядомых вядзе да засьцярогі іншага боку, як замбаваных, несьвядомых прадстаўнікоў горшага гатунку – падыход, які блякуе якую-кольвечы пэрспэктыву дыялёгу. У гэтым пляне менавіта сьведаміцтву ўласьцівыя шматлікія рысы сэктанцкага мысьленьня. Напрыклад, сярод сьведамітаў пануе звычай апавяданьня сваёй гісторыі „навяртаньня" да беларушчыны, якая тут выступае ў якасьці веры, то бок аповеды пра тое, „як я стаў беларусам" (бо ў іх разуменьні беларусамі не нараджаюцца, а становяцца), „калі я пачаў гаварыць па-беларуску", „як беларуская мова зьмяніла маё жыцьцё". Апрача гэтага адэпты сьведаміцтва гатовыя ўспрымаць звычайных беларусаў, як ворагаў і акупантаў, пры гэтым часта называючы іх цёмнымі, адсталымі і „несьвядомымі".

У рэчаіснасьці сярод „несьвядомых" часта сустракаюцца таленавітыя творцы, клапатлівыя суседзі, выдатныя гаспадары і знаўцы сваёй справы, якіх ніякім чынам не магчыма аднесьці да ахвяраў прамываньня мазгоў ці прадстаўнікоў ідэалягічнага мысьленьня. Карыстаючыся намэнклятураю Фройда, іх „несьвядомасьць" ня ёсьць вынікам падаўленьня id (яго), у чым амаль заўжды перакананыя сьведаміты, а таму іх стан не вымагае інтэрвэнцыі/дапамогі з боку сьведамітаў. Незважаючы на гэта, сьведаміт заўжды перакананы ў тым, што мусіць „несьці сьвятло", „асьвячаць" і „асьведамляць". У гэтым сэнсе сьведаміцтва кардынальна адрозьніваецца ад пазбаўленай ідэалёгіі адукацыі, якая вучыць людзей мысьліць, а не насаджае адну нерацыянальную сыстэму каардынатаў замест другой. Больш за тое, кожная рацыянальная сыстэма адукацыі ўлічвае існаваньне ў чалавеку ягонага нерацыянальнага складніка.

Сьведаміцтва – гэта той тып шчасьця, які некаторыя навукоўцы называюць сьвядомасьцю мядовага месяца. Мядовы месяц тут выступае як мэтафара пэрыяду, у якім з прычыны павышанай сьвядомасьці, усе чыннасьці выконваюцца з асаблівай ўвагаю і асьцярожнасьцю. Як толькі мядовы месяц мінае і саступае месца прозе жыцьця, сьвядомае зьмяшчаецца на карысьць несьвядомага, пачынаюцца першыя канфлікты, расчараваньні і прастрацыі. Жыцьцё ж – гэта цэлы айсбэрг, а ня толькі бачная (сьвядомая) з карабля верхавіна. Дзеля таго, каб пасьля мядовага месяцу не расчаравацца прозаю жыцьця, трэба памятаць аб тым, што кожны чалавек складаецца як са сьвядомага, так і зь несьвядомага.

# МАСТАЦКІ ФРОНТ КУЛЬТУРНІЦКАЙ ВАЙНЫ

**Віталь Зайка**

Нябачнае і невядомае бальшыні амэрыканцаў змаганьне двух сьветаглядаў, сапраўдна амэрыканскага, піянэрскага, услаўляючага індывідуалізм, волю і незалежнасьць, ды імпартаванага, што ўзносіць канфармізм, пакору і залежнасьць ад дзяржавы – ідзе паўсюль. Яно праходзіць праз школьныя клясы, аўдыторыі каледжаў, мясцовыя ўладныя ворганы, адвакацкія канторы, масавыя сродкі. У гэтым двубоі сьветаглядаў, што збольшага вядомыя пад не зусім удалымі й адэкватнымі назвамі: кансэрватызм і лібэралізм, шпагі ва ўдзельнікаў – зусім не аднолькавай даўжыні. Адна з прычынаў гэтага – выразная аднабаковасьць асноўных масавых сродкаў. Другая з шэрагу прычынаў таксама немалая – аднабаковасьць мастацтва і поп-культуры.

Сьвет мастацтва, гэтая, здавалася б, вольная і няўрымсьлівая стыхія, мусіла б сягаць ва ўсе бакі, перадольваць усе скрэпы, межы і фальш, быць рэчышчам незацуглянага творчага пачатку, неабмежаванай свабоды для выпрабаваньня, самаспасьцігненьня й пошуку тоеснасьці. Аднак пры ўважлівым разглядзе гэтая стыхія аказваецца не зусім ужо гэткай неабмежаванай, незацуглянай і няўрымсьлівай. У ейнай сфэры накрэсьленыя досыць выразныя і жорсткія межы, пазначаныя забароненыя зо-ны, маркіраваныя тэмы, што зьяўляюцца табу. Разам з тым трактаваньне кансэрватаў у гэтай стыхіі азначае адкіданьне аб'ектыўнасьці, а нават звычайнай

прыстойнасьці захаваньня. Носьбіты "няправільных" ідэяў ня маюць, па ўяўленьнях псэўдалібэралаў, права на вольны выказ сваіх ідэяў – бо навошта ж гэта, калі кругом гэтулькі прыгожых і слушных правільных ідэяў.

І сфэра мастацтва, гэты вялізны фронт культурніцкай вайны, да таго ж зьяўляецца аголеным. Як ні ў якай іншай сфэры, падступныя і крывадушныя сілы псэўдалібэралізму непадзельна дамінуюць на культурніцкім ляндшафце, запраўляюць вырабам кінафільмаў, тэатральных пастановак. Яны кантралююць выдавецкі рынак, а празь яго і творцаў-аўтараў. Напішы сцэнар фільму супраць Абамы, п'есу супраць ягонага мэдпляну або раман-баявік пра трагедыю ў Бэнгазі – і заскварышся! Нічога не апублікуеш, патрапіш у цёмныя сьпісы "рэакцыянэраў" (а заадно і "расістаў"). Атрымаеш нябачны воўчы білет і, калі ня зьменіш паглядаў, заўсёды будзеш гібець на маргінэсе культуры, ня ў стане пракарміцца сваёй творчасьцю.

Так было не заўсёды. Яшчэ адносна нядаўна мастацтва сапраўды было прыстанкам нонканфармізму, асяродкам пошукаў новых сродкаў выразу, формаў і мэтадаў выказу сваёй, асобнай і непаўторнай тоеснасьці, напітанай стваральным амэрыканскім духам самапэўнасьці, веры ў свае неабмежаваныя магчымасьці і ў зольнасьць зрабіць і паспрабаваць што заўгодна.

І гэная здольнасьць паспрабаваць што заўгодна сапраўды засталася, калі "што заўгодна" застаецца ў вызначаных межах і маркіраваных зонах. Легітымнымі сфэрамі экспэрымэнтацыі, а дакладней, сваволі, эпатажу, абсьмяяньня, зьяўляюцца традыцыйныя каштоўнасьці. Але каштоўнасьці, зьвязаныя выключна з заходняй цывілізацыяй, такія як хрысьціянская рэлі-гія, патрыятызм і бачаньне асаблівай ролі Амэрыкі, манагамная сям'я, рыцарскае стаўленьне да жанчыны, вера ў свае сілы, рамантыка індывідуалізму.

Пачыналася размываньня гэтых каштоўнасьцяў у легкадумныя 1920-я і крызысныя 1930-я гады з мураляў і карцінаў Бэн Шана і Джорджыі О'Кіф, з фатаздымкаў Роба Мана, з кнігаў Генры Мілэра й Ліліян Хэлман, з прапаганды абортаў і выкрываньня фальшу эры "прахібішэн". Затым прыйшлі плыткасьць і рэлятывізм карцінаў–абстракцыяў Полака і Роткі, скульптураў Нагуці, фільмаў Хічкока. Літаратурнае пакаленьне бітнікаў засеяла зерне, што ўзыйшло кветкамі псыхадэлічных наркотыкаў, эры гіпі й захапленьня "глямурам таталітарызму", Старшынём Мао на ядвабахшэдэўрах Энды Ўоргала, Дзядзькам Хо на магнітах лядоўняў і Гэварам на саколках. Старыя добрыя малюнкі й карціны кшталту твораў Нормана Рокўэла са сцэнамі Падзякаданьня і Калядаў успрымаліся "прагрэсіўнымі" арт-крытыкамі як анатэма добраму густу і злачынствам супраць "сапраўднага" мастацтва. З таго часу мастацкія асяродкі зрабіліся арт-аналягамі ваўчыных зграяў ды касякоў піраньняў. Калі будзеш вытыркацца са сваімі нямоднымі, непрагрэсыўнымі творамі – цябе загрызуць, парвуць на кавалкі.

Яшчэ ад часоў Марсэля Дзюшана і пачаткаў канцэптуалізму ў мастацтве найбольш прывабным было імкненьне эпатажу, абвяржэньня прынятых канонаў, гіерархіяў ды канцэптаў. І, здавалася б, цалкам слушна – усё мадэрнае ды постмадэрнае мастацва ёсьць своеасаблівае "адмаўленьне адмаўленьня". Але так было, пакуль ня стала на ногі выпеставаная "прагрэсыўнікамі" тэорыя мультыкультуралізму, і пакуль не набрала сілаў цэнзура спалучанай зь ёю паліт-карэктнасьці. Згодна зь ёю, "правільным" узорам прадукаваньня мастацтва ёсьць творчае пераасэнсаваньне ды выкрыцьцё хібаў і фальшу ў гісторыі й дасягненьнях заходняй цывілізацыі й хрысьціянства. "Іншыя цывілізацыі просяць не чапаць". Вітаюцца варыяцыі на тэму іконаў заходняга клясычнага мастацтва, напрыклад, выяваў Джаконды або коннага партрэту Напалеона пэндзля Ж-Л. Давіда. Яшчэ лепей – "экспэрымэнтаваньні" з хрысьціянскімі выявамі, як укрыжаваньне ва ўрыне Анрэса Сэраны або мурашкі на укрыжаваньні ў відэакліпах мастака Дэвіда Вайнаровіча. Няблага ўспрынятая арт-грамадою і выява Маткі Хрыста, напаўаголеная і намаляваная экскрэмэнтамі з-пад слана, што напрыканцы 1990-х выстаўлялася на выставе ў Бруклін-музэі. Арт-экспэрты кпілі тады з каталікоў, што выходзілі на дэманстрацыі супраць той выявы ў Бруклін-музэі, і абураліся намерам тагачаснага мэра Джуліяні скасаваць музэю гарадзкія датацыі за абразу пачуцьцяў вернікаў і згаршэньне выявы Маці Божае. Газэты, тэлеэтэр поўніліся заявамі ў абарону свабоды мастацтва – маўляў, цемрашалы не разумеюць істоты мастацтва ды гамуюць нязмушанае выяўленьне творчасьці.

Не прайшло і 7 год, як мастакі-карыкатурысты ў Даніі нязмушана выявілі сваю творчасьць праз апублікаваньне карыкатураў на Магамэта, што ўважаецца прарокам-заснавальнікам мусульманскай рэлігіі. Гэта выклікала буру гвалтоўных пратэстаў фанатычных мусульманаў і чалавечыя ахвяры скрозь па сьвеце. Тады абаронцы свабоды мастацтва або прамаўчалі, або нават гнеўна закляймілі "расістаў-карыкатурыстаў". Далей-болей. Калі на прапанову некалькіх мастакоў быў праведзены "Дзень намаляваньня Магамэта", у адрас адной з завадатарак імпрэзы паступілі пагрозы аб забойстве. Фальшывыя прыхільнікі свабоды мастацтва ізноў прамаўчалі або заявілі, што "так ёй і трэба". Мастачка была змушаная зьмяніць сваё імя й месца жыхарства, пачаць новае жыцьцё. Гэта адбылося ў Злучаных Штатах, але гісторыя "зьнікшай" мастачкі Молі Норыс, а таксама пагрозы ад мусульманаў стваральнікам сэрыялу "Саўт-Парк" ня выклікалі вялікай

цікавасьці. На мапе дазволеных для творчасьці зонаў творчасьці зьявіліся выразныя межы. Так, левакі-рэжысэры О. Стоўн, М. Мур даўно ходзяць у героях, а іхны калега Стывэн Эмэрсан, стваральнік стужкі “Джыхад у Амэрыцы”, вымушаны трымаць у сакрэце свой адрас дзеля пагрозаў забойства. Базылі Накула, рэжысэр стужкі “Нявіннасьць мусульманаў”, на якога Абама і суполка пераключылі адказнасьць за тэракты і гвалт у верасьні 2012 г. у Лібіі й Эгіпце, нават патрапіў за краты.

Комікі-артысты могуць беспакарана закруціцца навыварат, крытыкуючы прэзыдэнта Буша й Рэспубліканскую партыю, але крытыка прэзыдэнта Абамы можа прывесьці да звальненьня, як адчуў на сабе комік Джэй Лено, зь якім не падоўжыла кантракт фірма Эн-Бі-Сі, што можа лічыцца неафіцыйным ворганам Дэмпартыі й Абамы.

Калі кінуць вокам на ўвесь культурніцкі й мастацкі абсяг Амэрыкі, у вочы кідаецца непадзельнае панаваньне псэўдалібэральных каштоўнасьцяў і адпаведна неабмежаванае спажываньне грамадзтвам культурніцкай прадукцыі левых створцаў, сымпатыкаў або канфармістаў, тое, што ў савецкія часы называлі “піпл схàвае”.

Не сакрэт, што асноўнымі гадавальнікамі й распаўсюднікамі левалібэральных паглядаў зьяўляюцца масавыя мэдыі поруч з кінаіндустрыяй Галівуду (рэжысэры, мастакі, пісьменьнікі-сцэнарысты), унівэрсытэцкая эліта ды кадры Дэмпартыі. Гэтыя тры рэзэрвуары зьяўляюцца ўзаемна перацякальнымі, і ў выніку мастацтва густа перамешваецца з палітыкай ды адукацыяй. Ад часоў гіпакоў і бітнікаў, кожны “паважаючы сябе” – а таксама прагнучы камэрцыйнага прызнаньня – мастак адчувае, што ягоны посьпех ня прыйдзе праз апяваньне Амэрыкі, але праз – апляваньне. Калі такое апляваньне ў папярэднія дзесяцігодзьдзі спраўды вымагала перакананьняў, веры, мужнасьці, было ўчынкам – дык цяпер гэта проста частка бізнэс пляну або нават самазразумелая для ўсіх стратэгія. Фільмы О. Стоўна “ДжэйЭфКэй” пра забойства Дж. Кэнэды ў выніку правакансэрватыўнай змовы, “Камэрдынэр” Лі Дэніэлса пра схаваны расізм амэрыканскіх прэзыдэнтаў, нашумеўшы “Аватар” з прасьцяцкім сюжэтам супрацьстаяньня “глябальнаму імпэрыялізму”, і цэлая сэрыя фільмаў, што перакручваюць войны ў Іраку і Аўганістане (“Зялёная Зона”, “Даліна Элаг”, “Ільвы за ягнятаў”, “Затрыманьне”) тэндэнцыйна і аднабаковы выстаўляюць Амэрыку як крыніцу зла і праблемаў для насельнікаў сьвету. Ня лепей і гістарычныя фільмы –як “Банды Нью-Ёрка” М. Скарсэзе, што часьцяком паўтараюць найгоршыя атыамэрыканскія стэрэатыпы нацыстоўскай і савецкай прапаганды.

Кінакарціны, у якіх услаўляюцца амэрыканскія жаўнеры, як “Прывозячы Шанца” або “Паўгадзны папаўночы (Zero Dark Thirty)” Кэтрын Бігэлаў былі збэшчаныя крытыкамі як урапатрыятычная лухта, а фільм Бігэлаў быў яшчэ скрытыкаваны за ўжываньне сцэнаў катаваньня тэрарыстаў і за адчужэньне мусульманаў праз выстаўленьне іх у неспрыяльным сьвятле, што закрыла фільму шлях да “Оскара”. Крытыка неверагодным чынам ператварылася ў кшталт цэнзуры. Ня дзіва тады, што кансэрватыўных рэжысэраў і сцэрарыстаў у Галівудзе днём са сьвечкай не адшукаеш.

Не адстаюць і майстры слова. Кожны сучасны аўтар, асабліва шукаючы шляхоў у вялікую літаратуру, ведае пра скіраванасьць літаратурна-крытычнага асяродзьдзя і трымае ў пашане, прынамсі на словах, Сынклера Люіса ды Артура Мілера, а таксама Сола Бэлаў, Нормана Майлэра ды іншых выкрывальнікаў “карумпаванага, матэрыялістычнага, крывадушна-пурытанскага й бездуховага споду амэрыканскага грамадзтва”. Добра папрацавалі й працуюць на ніве прадукаваньня “белага вінавачаньня” афраамэрыканскія літаратары Ральф Элісан, Огаст Ўілсан, Тоні Морысан, Мая Ангелу, Эліс Ўокер, Рамона Лофтан (Сапфаер). У іх надзвычай папулярныя, прыкладам, сцэны згвалчаньняў дзяўчынак чорным бацькам, што прызначаныя шакаваць і выціскаць сьлёзы сораму (і даляры) зь белых чытачоў. Бо яны мяркуюцца “за кампанію” вінаватымі ў паняволеньні афраамэрыканцаў, і, што шакуе ня менш, многія зь іх сапраўды лічаць сябе вінаватымі, пасьля шматгадовага прамываньня мазгоў у сыстэме сярэдняй і вышэйшай адукацыі. Адначасна шакуючыя чорна-расістоўскія заклікі да гвалту ў вершах Аміра Баракі ўважаюцца за высокі палёт мастацтва, поўны тонкіх алюзіяў і г.д. У кожным разе, нядаўна памёрлы Барака быў кумірам левай і пераважна белай багемы.

Кансэрватыўных аўтараў, што выступаюць у белетрыстычным жанры, і якія апублікаваліся пасьля Айн Рэнд, можна пералічыць на пальцах. Сёньня яны працуюць у жанры іншасказу, у стварэньні таталітарных дыстопіяў (Прэстан Флэмінг, Арон Паўэл), не выступаючы з больш непасрэднымі, датычнымі бягучага моманту, сюжэтамі.

Што-ж стаіць перад сучаснымі кансэрватарамі: задача стварыць сваё, адмысловае мастацтва? Збудаваць уласны Галівуд дзе-небудзь у Тэхасе? Надзеяў на раптоўны росквіт кансэрватыўных музаў няшмат. Але ёсьць надзея, што надыходзячыя парлямэнцкія, а за імі й прэзыдэнцкія выбары паспрыяюць вяртаньню творчай свабоды ў Амэрыку. І гэтага было-б дастаткова.

# ЭЎРАСАЮЗ І ЭЎРАЗЬВЯЗ

**Віталь Воранаў**



Калі тры месяцы таму толькі пачыналіся пратэсты ва Ўкраіне супраць непадпісаньня ўрадам гэтай краіны дамовы аб асацыяцыі з Эўрасаюзам, я прысьвяціў гэтай тэме кароткі выпуск у межах праекту „Некарэктнае ТБ" (www.eSvaboda.org). У выпуску пад назваю „Эўрамайдан" я ставіў пад сумніў жаданьне ўкраінцаў паміраць за Эўрасаюз, і праводзячы аналёгію з Ахэйскім Саюзам і СССР, зьвяртаў увагу на тое, што народы гатовыя паміраць за сваю Бацькаўшчыну, але не за саюзы. На вялікі жаль, мой прагноз спраўдзіўся.

Ва Ўкраіне за гэтыя тры месяцы загінулі дзесяткі людзей, а тысячы параненыя. Спрацаваў найгоршы магчымы сцэнар канфлікту, калі ўкраінцы забіваюць украінцаў. З часам сярод пратэстоўцаў амаль цалкам пазьнікалі эўрасаюзаўскія сьцягі, у калёнках на Майдане заціхла гаворка пра Эўрасаюз, ды і сам Майдан ужо, здаецца, ніхто не называе Эўрамайданам. Украінцы паміраюць за Ўкраіну, за магчымасьць жыць у свабоднай, незалежнай і эўрапейскай краіне. Праз вялізарныя пакуты і жахлівыя страты ўкраінскі народ пачынае разумець, што Эўропа – гэта Ўкраіна, а не Эўрасаюз...

Збольшага, за апошняе дзесяцігодзьдзе Эўрасаюз на нашых вачах пераўтварыўся ў сацыялістычную махіну з усёпаглынаючым і ненажэрным бюракратычным апаратам. Аднак, паколькі ўкраінцы і беларусы ізноў аказаліся наўмысна адгароджаныя вялікай сьцяной у выглядзе шчыльнай мяжы і шэнгенскіх візаў, нашыя грамадзтвы не заўжды ў стане ацаніць тое, што адбылося і адбываецца з Эўрасаюзам. Як асоба, якая пражыла ў Эўрасаюзе значную частку жыцьця, паспрабую чытачам "Рубікону" даходліва патлумачыць розьніцу паміж Эўропай і Эўрасаюзам.

Для лепшага асьвятленьня праблематыкі з самага пачатку неабходна ўвесьці разьмежаваньне паміж Эўразьвязам, якім ён быў заплянаваны і створаны, ды Эўрасаюзам, у які ён быў пераўтвораны ў апошні час. Першапачаткова праект Эўразьвязу быў пабудаваны на глебе Эўрапейскай Эканамічнай Супольнасьці. У аснове гэтай супольнасьці быў свабодны гандаль паміж краінамі-ўдзельніцамі, а таксама спрашчэньне сыстэмы мытных збораў.

Дарэчы, на падобнай ідэі заснаваны і Мытны Саюз, што для Беларусі азначае непазьбежнае ўшчыльненьне адносінаў з Расеяй. Пачаткі Эўразьвязу выводзяцца з ідэі свабоднай, рынкавай эканомікі і капіталістычных формаў яе рэалізацыі. Аднак за дзесяцігодзьдзі свайго існаваньня, уладу ў Эўрапарлямэнце пераймалі партыі сацыялістычнага напрамку. Насуперак нашаму ўяўленьню пра капіталістычны захад, эўрапейскія краіны былі прасякнутыя марксістоўскай ідэалёгіяй ва ўсе часы. У некаторых краінах існавала пастаянная небясьпека пераняцьця ўлады сацыялістычнымі партыямі, а дзе-нідзе ім нават удавалася гэта зрабіць.

Біпалярнасьць геапалітычнага ладу з халоднай вайной і падзелам Эўропы на дзьве часткі, аднак, падштурхоўвалі краіны заходняй Эўропы да пільнай абароны перад сацыялістычным ладам. Пасьля разбурэньня Бэрлінскага муру і банкруцтва Савецкага Саюзу сытуацыя каардынальна зьмянілася. З цягам часу сацыял-дэмакраты пачалі пераймаць уладу ў многіх краінах Эўропы. Натуральна, адбывалася гэта дэмакратычным шляхам, і нічога дзіўнага ў гэтым няма, паколькі яшчэ Маркс вучыў, што дэмакратыя ёсьць дарогаю да сацыялізму. У адпаведнасьці з гэтым вучэньнем, і як паказвае рэчаіснасьць, кожная дэмакратыя павінна скончыцца ўладай сацыялістаў, бо народныя масы заўжды патрабуюць „атрымліваць" больш, а ня менш. Дадаткова, шэрагі сацыял-дэмакратычных партыяў на Захадзе павялічыліся дзякуючы далучэньню да Эўрасаюзу краінаў колішняга Варшаўскага блёку. Шмат хто з новых эўрапарлямэнтарыяў у савецкі час былі сябрамі камуністычных партыяў. Напрыклад, прэзыдэнт Эўрапейскай Камісіі (Палітбюро) Жазэ Мануэл Барозу з Партугаліі калісьці быў сябрам Камуністычнай Партыі Партугальскіх Рабочых, а сёньня зьяўляецца чальцом Эўрапейскай Народнай Партыі (дакладнейшы пераклад Партыя Эўрапейскага Народу!), ці Штэфан Фюле з Чэхіі, колішні сябра Камуністычнай Партыі Чэхаславаччыны, а сёньня – сацыял-дэмакрат, па сумяшчальніцтву адзін з асноўных дыпламатаў Эўрасаюзу...

На сёньняшні дзень сацыялісты разам са сваімі натуральнымі кааліцыянтамі з шэрагу лібэралаў, зялёных і апартуністычных цэнтрыстаў маюць у Эўрапарлямэнце беспрэцэдэнтную дагэтуль перавагу, а таксама трымаюць амаль абсалютную ўладу ў пераважнай большасьці паасобных урадаў Эўропы. За гэтым хаваюцца ўсе элемэнты сацыялістычнай, апякунчай формы ўлады, зь яе пачварнай бюракратыяй, сацыяльнай палітыкай, датацыямі, ільготамі і прэфэрэнцыямі, якія стаяць у прамой апазыцыі да ідэяў сва-

боднага рынку і аўстрыйскай школы эканомікі, якія стварылі ня толькі дабрабыт Эўразьвязу, але і Амэрыкі.

Хоць сацыяльная палітыка для многіх выглядае надзвычай прывабнай, трэба памятаць таксама пра непазьбежнае банкруцтва кожнай сацыялістычнай гаспадаркі. Як кажуць, сацыялістычныя сыстэмы (напрыклад Трэці Рэйх або СССР) падаюць не таму, што яны жорсткія і крывавыя, хоць як паказвае гісторыя без гэтага ў іх не атрымліваецца, а таму што банкрутуюць. Сацыялнацыяналіст Гітлер пачаў вайну таму, што быў банкрутам, а СССР разваліўся, бо ў краіне быў эканамічны каляпс. Пачаткі гэтага банкруцтва ўжо выразна бачныя ў шматлікіх краінах Эўропы і раней ці пазьней прывядуць да поўнага эканамічнага краху ўвесь Эўрасаюз.

Насуперак агульнаму меркаваньню пра дэмакратычнасьць Эўрасаюзу, улада ў краіне становіцца ўсё больш цэнтралізаванай і ў многіх аспэктах пачынае нагадваць партыйны аўтарытарызм. Пасьля цынічнага ігнараваньня ірляндзкага рэфэрэндуму, які адкідаў пастановы Лісабонскай дамовы, аўтарытарныя тэндэнцыі ў Эўрапарлямэнце толькі ўзмацніліся. Эўрапарлямэнт правёў чарговы рэфэрэндум, на якім атрымаў патрэбны вынік для прыняцьця Лісабонскай дамовы, адначасна пазбавіўшы многія краіны магчымасьці правядзеньня рэфэрэндумаў і перакінуўшы адказнасьць за прыняцьце аналягічнага рашэньня на ляяльныя ўрады паасобных краінаў. З 2009 году Эўрасаюз фактычна можна лічыць фэдэральнай краінай, а Лісабонскую дамову формаю канстытуцыі, якая стаіць панад нацыянальнымі канстытуцыямі паасобных краінаў.

З насіленьнем крытыкі дэмакратычна настроенай часткі эўрапарлямэнтароў, павялічыўся таксама маральны ціск на дэпутатаў, якія крытычна выказва-




юцца ў адносінах да палітычнага мэйнстрыму. Кожны дэпутат мае права свабоднага выказваньня, але практычна ня мае шанцаў зрабіць гэтага на працягу адведзеных некалькіх хвілінаў. У Эўрапарлямэнце 766 дэпутатаў, тысячы перакладчыкаў на 24 мовы, і тры розныя сядзібы (Стразбург, Брусэль, Люксэмбург), паміж якімі ўвесь час цыркулюе гэткі кагал людзей і дакумэнтаў. У дадатак, парадаксальна, але чакана, на апанэнтаў асноўнай палітычнай сілы вешаюцца ярлыкі здрайцаў, фашыстаў, рэакцыянэраў і праціўнікаў эўраінтэграцыі.

У Беларусі пануе міт, што калі Беларусь стане дэмакратычнай краінай, Эўрасаюз падтрымае беларускае памкненьне да незалежнасьці і замацаваньня яе дзяржаўнасьці. Аднак сёньняшні Эўрасаюз імкнецца менавіта да поўнае цэнтралізацыі, а не дэцэнтралізацыі ўлады. Улічыўшы сацыялістычную арыентаванасьць цяперашняга ўраду і ягоныя захады па зьнішчэньні асноўных апірышчаў нацыянальных дзяржаваў (царква, адукацыя, культура), разьлічваць на падтрыманьне беларускай незалежнасьці і дзяржаўнасьці могуць толькі людзі, якія не разумеюць або адмыслова ня хочуць разумець тых стратэгічных зьменаў, якія адбыліся ў эўрапейскай палітыцы цягам апошніх гадоў.

Прынята лічыць, што так званыя эўрапейскія каштоўнасьці прасякнутыя глыбокай духоўнасьцю і маральнасьцю. Аднак мала хто ў Беларусі арыентуецца, што Эўрасаюз амаль цалкам адыйшоў ад таго, што прынята лічыць эўрапейскімі каштоўнасьцямі і вядзе няспынны рух на шляху да культурніцкага марксізму. Рымскае права і адно зь ягоных асноваў Volenti non fit injuria (Таму хто жадае, крыўда ня дзеіцца), грэцкая этыка і хрысьціянства ня толькі адрынутыя, але і атакуюцца сацыялістычнай уладай. Замест іх уводзяцца вартасьці антыэўрапейскія, якія раней

лічыліся ў Эўропе абсалютна непрымальнымі. У іх ліку поўная легалізацыя спаронаў, эўтаназіі (у тым ліку дзяцей), усынаўленьне дзяцей у аднаполых шлюбах, а таксама шэрагу іншых, менш кантравэрсійных нормаў грамадзкага жыцьця.

У Заходняй Эўропе сотні хрысьціянскіх цэркваў зачыняюцца або прадаюцца. Нярэдка ў колішніх цэрквах паўстаюць мячэці, а часам начныя клюбы. У цэнтральнай Эўропе, дзе каталіцкая традыцыя яшчэ жывая, з дапамогаю мэйнстрымавых мэдыяў, вядзецца штодзённая вайна супраць царкоўных уладаў і актыўных вернікаў. Новая духоўнасьць Эўропы заснаваная на шматлікіх групах уплыву (фэміністкі, ЛГБТ актывісты, зялёныя, эмігранты), якіх выкарыстоўваюць у працэсах па падмене агульнапрынятых паняткаў маральнасьці і духоўнасьці, але ў першую чаргу ў якасьці „тэмазамяняльнікаў". Нацыянальныя правы і прыроджаныя правы чалавека (жыцьцё, свабода і ўласнасьць) няспынна падмяняюцца ўнівэрсальнымі (інтэрнацыянальнымі) і эгалітарнымі (роўнымі для ўсіх) правамі заснаванымі на лявацкіх ідэалах крывавай Француская рэвалюцыі. Пэўныя дывэрсійныя крокі эўрапейскай палітыкі ў адносінах да дэмакратычнай супольнасьці ў Беларусі, якія гэтая самая супольнасьць звычайна, як гэта бывала з ідэйнымі камуністамі ў савецкі час, прымае за памылкі сыстэмы (здача інфармацыі пра рахункі Алеся Бяляцкага) або недапрацоўкі (суд над Андрэем Жукаўцом). У сапраўднасьці гэтыя дзеяньні памылкамі не зьяўляюцца, а наўпрост вынікаюць менавіта з няспыннай падмены эўрапейскіх вартасьцяў вартасьцямі антыэўрапейскімі. Па сутнасьці, можна сьцьвярджаць, што менавіта новыя эўрапейскія антыкаштоўнасьці стаяць на перашкодзе да канкрэтных дзеяньняў па дапамозе ў ліквідацыі пануючага рэжыму ў Беларусі.

Так як кожная сацыялістычная сыстэма, улады Эўрасаюзу ад пэўнага часу імкнуцца да зьнішчэньня нацыянальных дзяржаваў. Як і ў СССР, эўрасацыялісты зразумелі, што сацыялізм можна збудаваць тады, калі зьнікнуць шматлікія народы, а на іх месцы зьявіцца адзін эўранарод, які будзе размаўляць на адной, максімум двух, трох мовах (ангельскай, францускай, нямецкай). Для справядлівасьці трэба прызнаць, што гэтага вымагае ня толькі сацыялістычны інтэрнацыяналізм, але і прагматызм, зьвязаны з новаю спробаю збудаваньня Вежы Бабель, якую, дарэчы, выпадкова ці не, вельмі нагадвае будынак Эўрапарлямэнту. Паколькі кожная мова краінаў Эўрасаюзу зьяўляецца таксама афіцыйнай, працоўнай мовай Эўрапарлямэнту, існуе вялізарны штат перакладчыкаў. Паасобныя ўстановы, пры іх няспынным скарачэньні з прычыны фінансавага крызісу, адстаюць зь перакладамі афіцыйных дакумэнтаў ужо на некалькі гадоў. Ужо перакладзеныя тэксты з-за сваіх памераў і закручанасьці фармулёвак, часта аказваюцца цалкам нечытэльнымі.

Больш за тое, пытаньні па дзяржаўных мовах і незалежнасьці пэўных рэгіёнаў, выносяцца Эўрасаюзам на рэфэрэндумы. Зусім нядаўна, шляхам галасаваньня, латвійцам ўдолася захаваць сваю мову ў якасьці адзінай дзяржаўнай. Аднак, ня цяжка здагадацца, што з паглыбленьнем эміграцыйных працэсаў моўная сытуацыя ў Эўропе будзе мяняцца не на карысьць моваў зь меншай колькасьцю насельніцтва. Лёгка таксама ўявіць на чыю карысьць прагаласавала б беларускае грамадзтва ў аналягічным, хай нават дэмакратычным, рэфэрэндуме. Калі сёняшні палітычны курс сацыялістычнай Эўропы працягнецца, то ў будучыні можна чакаць калі ня поўнага зьнікненьня большасьці эўрапейскіх моваў, то іх пасьпяховай маргіналізацыі. Аднак застаецца спадзеў на тое, што да гэтага часу эўрасацыялізм, як кожны іншы сацыялізм, папросту збанкрутуе.



Аздабленьне: © Магда Петрук

Ведаючы пра ўсё, што адбываецца ў Эўрасаюзе, можна нашмат лепш зразумець таксама і ўкраінскія падзеі. Калі Януковіч яшчэ вагаўся ці падпісаць дамову пра асацыяцыю з ЭС, Нямеччына выставіла ўкраінскаму ўраду абсалютова нерэальныя палітычныя патрабаваньні, сярод іншага, вызваленьне Юліі Цімашэнка, каб адмыслова сабатаваць парафіраваньне дамовы ў Вільні. Разумеючы, што Януковіч сам сабе ў скронь наўрад ці стрэліць, Эўрасаюз гарантаваў сабе ідэальнае алібі і адмазку, якія даюць яму перамогу на ўсіх франтах: адносіны з крамлёўскімі партнэрамі не пагоршацца, а можа нават і палепшацца, а Ўкраіна завязьне ў бясконцым нацыянальным канфлікце, што адкладзе нязручную праблему яе інтэграцыі ў ЭС на дзесяцігодзьдзі. Ведаючы палітыку ЭС, і асабліва Нямеччыны, якая стварае ягоную замежную палітыку і мае эканамічны кантроль у большасьці краінаў ЭС, прыняцьцё Ўкраіны нават у дзесяцігадовай пэрспэктыве часу выглядае недасягальнай марай. Дадаткова, каб „заахвоціць" Украіну да інтэграцыі, ЭС запрапанаваў Украіне суму ў разы меншую чым тую, якую падчас адной пяцігодкі выдаткоўвае на змаганьне з глябальным прывідам – пацяпленьнем, або пахаладненьнем, гэтага ніхто ўжо дакладна ня вадае. А цяпер, для падтрыманьня свайго алібі, дастаткова толькі дасылаць ва Ўкраіну, а час ад часу і ў Беларусь, спагадлівыя дэпешы пад назваю „ЭС глыбока занепакоены".

Эўрасаюз мэтанакіравана стварае ўражаньне, што ня мае адзінай зьнешняй палітыкі, гэтым самым прыкрываючы факт, што замежнай палітыкай ЭС фактычна кіруе Нямеччына. Варта заўважыць, што самае вялікае дагэтуль кровапраліцьцё ва Ўкраіне пачалося пасьля таго, як канцлер Нямеччыны Ангела Меркель дала зразумець, што эканамічныя санкцыі супраць ураду Януковіча Эўрасаюзам не разглядаюцца. Такая сабе Realpolitik у дзеяньні. Адначасна ў лявацкіх Эўрасаюзаўскіх мэдыях запусьцілі качку пра „фашыстаў" на Майдане. У першую чаргу дзеля таго, каб перад сваімі выбаршчыкамі мець апраўданьне для свайго нэйтралітэту. У рэчаіснасьці праблема ў тым, што сапраўдная Эўропа, часткаю якой безумоўна зьяўляюцца і Ўкраіна, і Беларусь, ужо даўно аддадзеная пад геапалітычнае куратарства Расеі. Нямеччына можа пахваліцца, відаць, найлепшымі стасункамі з Расіяй за ўсю гісторыю, а эўрасаюзаўскія меншавікі, нарэшце, маюць магчымасьць аб'яднаць сілы са сваімі крамлёўскімі партнэрамі – бальшавікамі (У. Букоўскі). Так як Беларусьсю гандляваў Напалеон, так як яе перапалосквалі Ленін, Гітлер і Сталін, так сёньня лёсам Балта-Чарнаморскага рэгіёну гандлюе Эўрасаюз з Расеяй. Адзінае чаго не ўлічылі сёньняшнія саюзнікі дык гэта дэтэрмінацыі ўкраінскага народу і адданасьць сапраўдным эўрапейскім ідэалам. Яны не ўлічылі таго, што хтосьці сёньня гатовы паміраць за сваю радзіму і гэта была іх тактычная памылка, за якую хоцькі-няхоцькі прыйдзецца калісьці разьлічвацца.

Як кажа адзін польскі палітык: як кожны прыстойны немец ненавідзеў Трэці Рэйх, а кожны нядрэнны расеец – Савецкі Саюз, так сёньня кожны сапраўдны Эўрапеец павінен ненавідзець Эўрасаюз. А Беларусі, Украіне, Польшчы і Прыбалтыцы неабходна пачынаць будаваць пляны пра свой Эўразьвяз. Тады можа і стары Эўразьвяз вызваліцца з-пад акупацыі Эўрасаюзу. Лёс ужо адводзіў нам ролю ратавальнікаў цэлага кантынэнту і то неаднойчы! Як паказвае найноўшая гісторыя Беларусі й Украіны – іншага выйсьця ў нас проста няма. Інакш нашая частка Эўропы будзе заставацца вечным закладнікам вялікай геапалітычнай гульні, а мы ў ёй будзем заставацца толькі маленькімі пешкамі.

# Калёнка маласьвядомага беларуса



**Лёнік Шышко-Карамелька**

Здарылася неяк аднойчы, што пасол Ізраіля паслаў сьвядомых беларусаў у адно маладыпляматычнае месца. Сьвядомыя беларусы, натуральна, вельмі абурыліся і адразу пачалі пратэставаць. Часткаю іхнага пратэсту быў паход да гэтага самага пасла ў госьці на чай зь мёдам. Пасьля чайных цырымоніяў, сьвядомыя беларусы бесцырымонна ўзяліся за ўсьведамленьне гаспадара.

Усьведамлялі пасла і так, і гэтак, праз вушы і пра вочы, і зьлева і справа, дыпляматычнымі й недыпляматычнымі сродкамі. Сьвядомыя беларусы чыталі перад пасломм сьвядомыя вершы, цытавалі ўрыўкі са сьвядомай гісторыі, хрысьціліся і бажыліся, рвалі на сабе кашулі і жавалі гальштукі… І нічога! Нягледзячы на ўсе гэтыя захады па ўсьведамленьні пасла, той працягваў няўзрушана сядзець у сваім крэсьле.

Сыходзячы з пасядзелак, сьвядомыя беларусы ніяк не маглі зразумець, чаму пасол так і не зрабіўся сьвядомым беларусам. Яны ж зрабілі ўсё, што патрэба для ўсьведамленьня нават самога Люцыпара! Пакідаючы тэрыторыю пасловай сядзібы адзін са сьвядомых беларусаў раптам зрабіў філясэміцкую заўвагу: „Хлопцы, здаецца я ўсё зразумеў – пасол сьвядомы жыд."